Издатель УП «Газета Слонимская» Выходит один раз в неделю *Просто хорошая газета* Газета рекламная для досуга Основана 18 октября 2002 года №41 (684) 11 октября 2017 года

12+

# Отдушина



НАША ІНТЭРВ`Ю

## «Аляксандр Лукашэнка — гэта такі савецкі чалавек, але не прыхільнік «русского мира»



*Аляксей Янукевіч на магіле Івана Шэгі*

**Мінуў год з дня смерці лідара дэмакратычных сілаў Слонімшчыны і лекара Івана Шэгі. Памянуць добрым словам спадара Шэгу ў Слонім 4 кастрычніка прыехаў і былы лідар, а цяпер намеснік кіраўніка партыі БНФ Аляксей Янукевіч. У размове з гэтым палітыкам высветлілася, што спадар Аляксей — наш зямляк.**

— У мяне бацька хоць і родам з Баранавіцкага раёна, але гэта зусім недалёка ад мяжы Слонімскага раёна і Слоніма, гэта вёска Лотвічы. Таму ў вашых мясцінах я бываю з самага дзяцінства, — прызнаецца спадар Аляксей.

**— Калі часта тут бываеце, то як ацэніце стан дэмакратычнага руху на Слонімшчыне і Гродзеншчыне ўвогуле?**

— Сёння мы ўспаміналі шаноўнага спадара Івана Шэгу. Ён быў безумоўным дэмакратычным лідарам у Слоніме. І я цешуся, што яго справа працягваецца, што тут ёсць дэмакратычная супольнасць і структура БНФ працягвае працаваць актыўна. І Гарадзеншчына ўвогуле — гэта традыцыйна рэгіён дэмакратычны і беларускі. Калі параўноўваць з усёй краінай, то, канешне, тут мы больш бачым актыўнасці. Гэта зямля — базавы цэнтр падтрымкі нацыянальнага адраджэння.

**— Ужо хутка на Беларусі выбары парламенцкія і прэзідэнцкія. Што плануе на іх рабіць партыя БНФ?**

— Мы ўжо вырашылі на з`ездзе, які адбыўся 30 верасня, удзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах і вылучаць свайго кандыдата. Я перакананы, што і ў парламенцкіх выбарах мы будзем удзельнічаць са сваім спісам і сваёй платформай.

І зараз мы бачым, што асноўнае ідэйнае змаганне на будучых выбарах будзе адбывацца паміж прыхільнікамі беларускай нацыянальнай ідэі і прыхільнікамі так званага «русского мира». І менавіта каб адстойваць нашы беларускія нацыянальныя каштоўнасці, мы ідзем на гэтыя выбары.

**— Як у гэтай сітуацыі будзе весці сябе беларуская ўлада, на Ваш погляд?**

— Мы бачым, што ўладная сістэма становіцца ўсё менш кансалідаванай, там зараз выяўляюцца як прарасійскія дзеячы, так і тыя, хто стаіць на беларускіх пазіцыях і арыентуецца на Захад. І, канешне, гэта будзе складаць умовы дзеля таго, каб прыспешваць перамены. Мы бачым, што Аляксандр Лукашэнка пакуль дастаткова камфортна трымае кантроль над сітуацыяй. Але ён таксама вымушаны шукаць новы баланс для сваёй улады. Ён вымушаны рабіць крокі не толькі ў бок Расеі, але і ў бок Захаду, у бок беларускага грамадства, якое зараз стаіць на нацыянальных каштоўнасцях. Таму глабальна сітуацыя разгортваецца ўсё ж такі ў накірунку, калі нацыянальная ідэя, нацыянальныя каштоўнасці і курс на інтэграцыю ў Еўропу, дзе гістарычна павінна быць Беларусь і цывілізацыйна, усё ж такі ўмацоўваецца.

**— Спадар Аляксей, на Ваш погляд, Аляксандр Лукашэнка цяпер — гэта чалавек так званага «русского мира» ці ўсё ж больш празаходні?**

— Аляксандр Лукашэнка — гэта такі савецкі чалавек, але не прыхільнік «русского мира». Але тым больш нельга назваць яго і празаходнім чалавекам. Ён такі савецкі чалавек, але бачым, што сітуацыя вымушае яго дыстанцыявацца ад Расеі.

**— З 30 верасня 2017 года Вы перасталі быць кіраўніком партыі БНФ. Як Ваша жыццё пасля гэтага змянілася?**

— Па вялікім рахунку, нічога не змянілася. Я цяпер намеснік кіраўніка БНФ, і ў нас захавалася тая сама каманда, якая была некалькі гадоў. Цяпер кіраўнік партыі Рыгор Кастусёў, але ўсё роўна мы ўсе разам актыўна працуем. Я цяпер раблю большасць тых самых спраў, якія рабіў, калі быў кіраўніком партыі БНФ.

**Мікіта ПАСТУХОЎ**

ФОТА АЎТАРА



## Гэты тыдзень у гісторыі Слонімшчыны: 9-15 кастрычніка

**9 кастрычніка 1596 года** абвешчана Брэсцкая царкоўная ўнія, згодна з умовамі якой стваралася новая царква — уніяцкая. Шэсць цэркваў Слоніма пасля забароны праваслаўя становяцца ўніяцкімі.

**10 кастрычніка 1934 года** нарадзіўся заснавальнік Слонімскага драматычнага тэатра Мікалай Варвашэвіч. Памёр у 2001 годзе.

**12 кастрычніка 1943 года** выйшаў першы нумар аднаўленай партызанамі газеты "Вольная праца".

**15 кастрычніка 1817 года** ў Швейцарыі памёр Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка. Нарадзіўся ў 1746 годзе ў маёнтку Мерачоўшчына Слонімскага павета (цяпер Івацэвіцкі раён). Кіраўнік паўстання 1794 года супраць расійска-прускай акупацыі Рэчы Паспалітай.

**15 кастрычніка 1940 года** па пастанове Баранавіцкага аблвыканкама 48 найкаштоўнейшых экспанатаў Слонімскага музея былі перададзены ў Баранавіцкі музей мастацтва.

**15 кастрычніка 1949** года ў Парэччы нарадзіўся пісьменнік Аляксей Якімовіч, вядомы кнігамі для дзяцей "Эльдарада просіць дапамогі", "Сакрэты Тунгускага метэарыта", "Пастка для пярэваратня", "Хітрая ліса" і іншымі.

**Васіль ГЕРАСІМЧЫК**

## Ритуальные услуги

НОВОСТИ

# В Зельве электричество будут добывать из ветра

**Около Зельвы строят ветропарк, который сможет обеспечить электроэнергией весь район.**

Парк ветряных электрогенераторов мощностью 5 мегаватт возводится в урочище «Татаришки». На возвышенности недалеко от деревни Холстово уже появился первый 86-метровый ветрогенератор. Всего на Зельвенщине установят 6 ветряков, рассказывает газета «Праца».

— Мощность одного генератора немецкого производства достигает 1,65 МВт, — сообщил корреспонденту «Працы» главный инженер ООО «Белсетистрой» Станислав Курстак.

Ветропарк около Зельвы — это инвестиционный проект, который реализуется с января 2015 года в рамках инвестдоговора между Гродненским облисполкомом и ООО «Зилант».

При хорошем ветре вырабатываемой энергии должно хватить для того, чтобы обеспечить ею всех потребителей района. На строительство потрачено уже около 3 миллионов евро. Планируется, что ветропарк окупится через 5 лет.

**Владимир ВИКТОРОВ**

ПРОИСШЕСТВИЯ

# Слонимчанину проломили череп его же костылём

**Выяснение отношений закончилось черепно-мозговой травмой и ушибом головного мозга.**

В Слонимском районе местные жители 1972 и 1952 гг. рождения, встретившись возле магазина, стали спорить из-за зарплаты — раньше мужчины вместе работали и якобы один в свое время получал больше другого, сообщает официальный представитель УВД Гродненского облисполкома Игорь Белозеров.

Вербальный конфликт в итоге перерос в рукоприкладство — более молодой оппонент забрал один костыль у пенсионера и стукнул его по голове этим предметом.

У потерпевшего открытая черепно-мозговая травма и ушиб головного мозга – повреждения, относящиеся к категории тяжких. По соответствующей статье возбуждено уголовное дело.

**Жанна ИВАНОВА**

# Из сарая вынес более 10 литров водки

**31-летний житель одной из деревень Слонимского района обокрал 86-летнюю пенсионерку-односельчанку.**

Злоумышленник воспользовался тем, что у соседки была привычка не запирать на ночь замок двери сарая.

Как сообщается на сайте областного УВД, мужчина наведался в сарай ночью и вынес оттуда 13 бутылок водки.

**Татьяна ПЛАХЕТКО**

# Шыльдачка, альбо Закон, які не працуе


*Выступае Аляксей Якімовіч*


*Дзеці слухаюць Аляксея Якімовіча на адной з імпрэзаў у слонімскай бібліятэцы*

Як пасееш, так і сажнеш.
*З народнага*

Не так даўно пачуў адну павучальную гісторыю ад свайго былога аднакурсніка.

Неяк у вёсцы ён заўважыў аўтобус — перасоўную бібліятэку, на якім было напісана: «Библиотека». Як неабыякавы беларус, мой аднакурснік абурыўся і звярнуўся да кіраўніка адпаведнай арганізацыі з просьбай зрабіць гэты надпіс па-беларуску. Вось які адказ ён атрымаў: «Назва «Бібліятэка» на беларускай мове будзе зроблена ў бліжэйшы час пры наяўнасці неабходных сродкаў». Ведаючы, што нашы начальнікі адпаведныя сродкі могуць шукаць і год, і два, руплівец-беларус з гэтай жа самай просьбай звярнуўся ўжо да вышэйшага начальніка. Ад таго неўзабаве прыйшоў наступны адказ: «На падставе артыкула 26 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь» надпіс на рускай мове «Библиотека» на аўтамабілі перасоўнай бібліятэкі выкананы ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь».

Сапраўды, ёсць такі Закон, прыняты 26 студзеня 1990 года. Вось што паведамляе яго артыкул 26: «У Рэспубліцы Беларусь мовамі ў сферы культуры з'яўляюцца беларуская (або) руская мовы. Гарантуецца захаванне і развіццё культуры на мовах іншых народаў, прадстаўнікі якіх жывуць у рэспубліцы».

Перад прыняццем гэтага Закона прадстаўнікі ўлады, як заўжды, гучна абвясцілі, што такі Закон дасць штуршок для развіцця беларускай мовы, што нарэшце яна расквітнее і ўзмужнее.

Расквітнела, узмужнела? Па маіх назіраннях, ужо ледзь дыхае, бедная, аб чым сведчыць і шыльдачка з надпісам на перасоўным аўтобусе. А мовы іншых народаў, прадстаўнікі якіх жывуць у Рэспубліцы Беларусь? Не чуў, каб яны звінелі весёлымі птушынымі галасамі.

Дык што выходзіць? Прыярытэт аддадзены адной мове — рускай. Яна тут гаспадыня, яна раскашуе на нашым агародзе, выцясняючы мову тытульнай нацыі, а разам з ёю і яе культуру, бо, як вядома, аснова кожнай культуры — мова.

Няўжо наша культура такая кепская, недасканалая, нікчэмная? Няўжо яна патрабуе тэрміновай замены рускай культурай, чаму так спрыяе Закон «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь»?

Так, руская культура — культура Аляксандра Пушкіна, Льва Талстога, Антона Чэхава — добрая, спагадлівая, гуманістычная, мірная, магутная. Але ці выбралі яе расіяне?

Як паказваюць сучасныя апытанні, для большасці расійскіх грамадзян знакавымі фігурамі з'яўляюцца Іван Жахлівы (уласнымі рукамі забіў свайго сына Івана), Пётр Першы (асабіста дапытваў свайго сына Аляксея на дыбе, а потым загубіў разам з памагатымі), Іосіф Сталін (пакінуў свайго сына ў фашысцкім лагеры, фактычна аддаў нацыстам на загубу). Што было прыярытэтам для гэтых кіраўнікоў, што яны фарміравалі ў свядомасці людзей і перадавалі як спадчыну? Бесчалавечнасць, беззаконне, жаданне да пасінення трымацца за ўладу і бясконца за кошт суседзяў пашыраць свае тэрыторыі. Але ж такі падыход патрабуе каласальных сродкаў, ахвяр і, урэшце, вядзе да маральнай дэградацыі, да распаду, да самазнішчэння.

Такую культуру мне не хочацца прымаць, але, на жаль, яна ўжо побач са мною, яна акружае мяне, без дазволу ўвальваецца ў мой дом. У выніку многія мае суайчыннікі співаюцца, бавячы свой час каля вінных магазінаў. «Яны ўжо збуялі», — метка заўважыў адзін мой добры знаёмы. А колькі маладых, разумных, умелых людзей падпалі пад уладу наркотыкаў! Гэта і ёсць самазнішчэнне. Гэта слёзы бацькоў і мацярок, гэта стогн маёй мовы, якую Закон не шкадуе, ператварае ў руіны.

Я не хачу пашыраць межы сваёй дзяржавы. Я хачу, каб была мая мова, мая культура, каб прыгожыя песні на мове цешылі і рускіх, і палякаў, і яўрэяў, і татараў, і ўкраінцаў, і...

Каб хоць нечым парадаваць прыхільнікаў мовы, прывяду адзін светлы прыклад.

Газета «Народная воля» ад 7 красавіка 2017 года паведаміла, што ў Іспаніі арганізаваны курсы вывучэння беларускай мовы. Вось што піша карэспандэнт Вера Вір: «На працягу двух з паловай гадзін у вельмі станоўчай і сяброўскай атмасферы настаўнік беларускай мовы Сяргей Манюк дапамагаў іспанскім вучням пазнаёміцца з беларускай мовай, а нашым суайчыннікам у Іспаніі — успомніць вывучанае раней».

Як гаворыцца, можам, калі хочам. Але чаму там, а не тут?

Каб даць мове крылы, лічу, тэрмінова трэба мяняць Закон, які не працуе. Ужо дваццаць сёмы гадочак ён прасуе мову.

«Гісторыя — настаўніца жыцця», — пісаў рымскі аратар, філосаф і дзяржаўны дзеяч Цыцэрон.

Што заўтра, паслязаўтра скажа пра нас гісторыя?

**Аляксей ЯКІМОВІЧ**

ФОТА З АРХІВА "ГС"

# Публичный конкурс «Отличник»

**«Газета Слонимская» проводит конкурс «Отличник» для наших школьников! Пришлите нам свои отличные оценки и выиграйте сертификат на групповое посещение пиццерии «Пятачок»!**

**1.** Вырежьте купон из газеты.
**2.** Отметьте в купоне количество 9 и 10, полученных за текущую учебную неделю (на купоне указана дата учебной недели, за которую должны быть внесены оценки).
**3.** Пришлите или принесите купон в редакцию «Газеты Слонимской» по адресу: 231791, Слоним, ул. Красноармейская, 41 до 31.10.2017 включительно.

10 участников, которые по итогам конкурса наберут наибольшее количество баллов, получат сертификат на групповое посещение пиццерии «Пятачок».

Более подробные условия конкурса можно прочесть на сайте gs.by и в №40 «Газеты Слонимской».

ВЫРЕЖИ МЕНЯ

Купон — конкурс «Отличник» — Газета Слонімская

ФИО участника
Школа, класс участника
Количество 9 и 10, полученных участником за текущую неделю
Мобильный телефон родителя(ей) для связи
+375 ( ) ____________

(9-14 октября)
Дата учебной недели, за которую должны быть внесены оценки — Подпись родителя

ВЫРЕЖИ МЕНЯ

ФУТБОЛ. 1-Я ЛИГА

# Пенальти и карета скорой помощи

## Перипетии матча «Слоним-2017» — «Луч»


*Слонимские футбольные фанаты благодарят футболистов за хорошую игру*

**«СЛОНИМ-2017» 0:2 «ЛУЧ»**
**Слоним–2017**: Чешун, Глебов, Хмельницкий, Читанава, Калинин, Костючик, Михальцов (Азерский, 90), Пузач (Спасюк, 60), Соловей (Герасимчик, 90), Харланов, Новик.
**В запасе остались**: Пацевич, Дегтерев, Подрецкий, Чепа.
**Голы:** Кац (пенальти 82), Семенов (90).

В субботу, 7 октября, ФК «Слоним-2017» банально не везло. При хорошей игре мяч после атак слонимчан летел то в перекладины, то во вратаря, но никак не в сетку ворот. А на 82-й минуте после спорного пенальти в ворота слонимчан наши футболисты упустили и ничью.

После этого слонимские футбольные фанаты начали еще активнее поддерживать родной клуб, а также петь известную песню «Тополиный пух», посвященную судье этого матча. Но в добавленные 15 минут матча слонимчане пропустили еще один мяч и получили обидное поражение. Несмотря на это, слонимские ультрас поблагодарили их за хорошую игру.

Еще одна неприятность случилась с командой в начале второго тайма. На 60-й минуте при попытке забить гол игрок нашей команды и воспитанник слонимского футбола Александр Пузач столкнулся с вратарем гостей. В итоге наш футболист получил травму ноги. Чтобы отвезти его в больницу, на поле стадиона приехала скорая помощь.

Утром 9 октября футболиста транспортировали для дальнейшего лечения в Минск.

Желаем здоровья Александру. Напомним, что по версии «ГС» Александр Пузач был лучшим футболистом Слонимщины 2016 года.

Следующий матч ФК «Слоним-2017» проведет 14 октября в Столбцах с местным клубом «Неман-Агро».

**Никита ПАСТУХОВ**
ФОТО АВТОРА

# Слонимским актёрам аплодировали стоя

**Неделя культуры в Слониме завершилась 8 октября в драматическом театре показом спектакля по пьесе Я. Купалы «Прымакі».**

Перед началом представления у всех желающих была возможность посетить выставку театрального костюма и декораций.

После третьего звонка к собравшимся обратился заведующий литературной частью Сергей Чигрин, поздравив работающих в области культуры и уважающих саму культуру. Он также напомнил о важности и исторической ценности самого театра:

— Слоніму і Слонімшчыне пашанцавала з тэатрам і тэатральнымі традыцыямі. Тэатр Агінскага, які прынёс нашаму гораду славу, праіснаваў амаль чвэрць стагоддзя. Цяпер вы прысутнічаеце на тым месцы, дзе калісьці гучалі галасы вялікіх людзей. Калі б сцэны маглі гаварыць, яны б распавялі аб выступах Фёдара Шаляпіна, Галіны Вішнеўскай, Міхася Забэйды-Суміцкага, польскага спевака Яна Капура і многіх іншых. З таго часу ў большасці сваёй Слонім вядомы тым, што тут калісьці быў той тэатр. У нас ёсць адзіная вуліца ў свеце, якая называецца Опернай, больш такой вуліцы нідзе няма. Мы ходзім па той вуліцы, па якой у свой час спяшаліся вялікія артысты. Нам пашанцавала, таму што ў Беларусі ёсць гарады большыя за наш, але такіх тэатраў там няма. У Гродзенскай вобласці тры дзяржаўныя тэатры — гродзенскія абласныя лялечны і драматычны, а трэці — у нас у Слоніме.

Вспомнив также бессмертную звезду белорусской литературы Я. Купалу и его визит в Слоним в 1939 году, Сергей Чигрин предложил почтить его память и память всех артистов, работавших когда-то в нашем городе.

После зрители погрузились в мир комедии, где, поссорившись с женами, соседи Трофим Синица и Максим Кутас решили залить свое горе известно чем. А хорошо выпив, начали хвастаться, у кого жена хуже. Не выяснив, решили поменяться женами. Что и сделали ночью. А утром началось такое...

Знаменитая пьеса с самобытным белорусским колоритом в исполнении слонимских актеров то и дело взрывала смехом зал. По окончании зрители аплодировали стоя.

### Мнения



Анна посещает театр по мере желания. Примерно раз в три месяца, в основном с родителями.

— Мне нравится атмосфера, присущая таким местам. От сегодняшнего представления в восторге. Могу сказать, что игра актеров была просто потрясающей. Выставка тоже понравилась, особенно настроенная гитара.



Галина с дочкой Юлией также стараются ходить в театр как можно чаще.

— Мы раньше в России жили, еще там начали ходить на спектакли. И здесь пытаемся ходить постоянно. Слонимский театр нравится тем, что он красивый, уютный и удобный. И актеры молодцы, их игра всегда на высоком уровне.

**Полина ЛАВРОВА**
ФОТО АВТОРА
БОЛЬШЕ ФОТО НА GS.BY






*Сцены из спектакля "Прымакі"*

# ВОЙДИ В ИСТОРИЮ СВОЕГО ГОРОДА

В жизни каждого человека случаются как радостные, так и горестные события. Ведь именно из них и складывается хроника нашей жизни, которая может быть интересна не только нам, но и нашим потомкам. Поэтому давайте вместе создавать историю нашего Слонима.

Если вы хотите, чтобы издание «Отдушина» написало о вашей свадьбе, рождении ребенка, известило о смерти ближнего и напечатало некролог под рубрикой "Войди в историю своего города", пишите нам -по адресу:
г. Слоним, ул. Красноармейская, 41, Тел.: 612-26-43, 2-90-00 (Тел/факс) .

# «Слонімскія гісторыі» сабраў пад адной вокладкай Сяргей Чыгрын

**У выдавецтве «Кнігазбор» у Мінску нядаўна выйшла чарговая кніга пісьменніка, краязнаўцы і журналіста Сяргея Чыгрына «Слонімскія гісторыі»**

У размове з карэспандэнтам «ГС» аўтар адзначыў, што ў гэтай кнізе пад адной вокладкай ён сабраў гісторыі слонімцаў і людзей, якія звязаныя са Слонімшчынай і яе гісторыяй, пачынаючы з XIX стагоддзя і да нашага часу.

Чытачы даведаюцца з гэтай кнігі пра гісторыю першага слонімскага водаправода, пра пабудову палаца Слізняў у Навадзявяткавічах, пра гісторыю слонімскай кнігі і шмат пра што іншае з гісторыі Слонімшчыны ў яе гістарычных межах.



*Вокладка новай кнігі Сяргея Чыгрына*

—К ніга пачынаецца артыкулам пра забытага сёння дзеяча былой Заходняй Беларусі Рыгора Акулевіча (1907-1974), які потым эміграваў у Канаду і займаўся там выдавецкай дзейнасцю ды выступаў як публіцыст, а заканчваецца згадкай пра слонімскага скульптара Леаніда Богдана, які трагічна загінуў сёлета. Таксама я распавядаю тут невядомыя раней факты пра жонку Янкі Купалы Уладзіславу Луцэвіч, якая мае непасрэднае дачыненне да Слонімшчыны праз папулярызацыю тут творчасці Янкі Купалы, пра заходнебеларускіх паэтаў Анатоля Іверса, Валянціна Таўлая, Язэпа Крыгу, Маладога Дубка, пра першага протаігумена ўсходняй місіі і суперыёра законнага дому айцоў-езуітаў у Альбярціне каля Слоніма Уладзіміра Пянткевіча, пра слонімскіх фатографаў, якія жылі і дзейнічалі ў XX стагоддзі, і іншыя гісторыі з таго часу. Матэрыялы, якія склалі змест гэтай кнігі, гэта плён маёй даследчыцкай працы ў розных архівах ды бібліятэках і вынік маіх стасункаў з людзьмі за апошнія два гады. Тут сабраныя творы, якія не ўвайшлі ў мае ранейшыя кнігі, а друкаваліся толькі ў перыядычных выданнях, — расказаў Сяргей Чыгрын пра сваю новую кнігу.


*Сяргей Чыгрын*

А асноўным, скразным матэрыялам сваёй новай кнігі аўтар назваў артыкул пра колішнюю студэнтку Віленскай беларускай гімназіі, супрацоўніцу Беларускай Цэнтральнай Рады падчас Другой сусветнай вайны Еўдакію Казлову (1917-1983) «Яе дапытваў Цанава».

Напрыканцы варта дадаць, што «Слонімскія гісторыі» Сяргея Чыгрына можна набыць у кнігарні «Акадэмічная кніга» ў Мінску і ў слонімскай кнігарні на Першамайскай вуліцы.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

ФОТА З АРХІВА СЯРГЕЯ ЧЫГРЫНА

ФОТОКОНКУРС

# Самое необычное свадебное фото

**Редакция «Газеты Слонимской» проводит конкурс «Самая необычная свадебная фотография».**


*Анастасия и Владимир Шмаковы*

Для участия в конкурсе необходимо прислать не более одной свадебной фотографии. Принимаются фотографии только свадебной тематики, на которых изображен сам участник.

Присланные фотографии будут публиковаться на страницах «Газеты Слонимской», а также будут размещены на сайте gs.by в специальном альбоме «Счастливы вместе».

Конкурс будет проходить с 13 сентября по 18 октября 2017 года.

Проголосовать за понравившийся снимок можно будет в группе «Газеты Слонимской» в «Одноклассниках», поставив «класс» под фотографией.

Победителем конкурса станет тот участник, чье фото наберет больше голосов.

Победитель получит приз — оригинальный комод, который предоставит ЧУПП «Анмикс». Награждение состоится 20 октября 2017 года.

Фотографии присылайте по адресу: г. Слоним, ул. Красноармейская, 41, с пометкой «Свадебное фото», или на эл. ящик: anna@gs.by

**Анна ВОЛОДАЩУК**

## Поздравляем с днём рождения!

**Виктора Артёмовича и Янину Томашевну КОНДИРАНДА**
**поздравляем с 65-летием свадьбы!**



Вас теперь не разлучить
Никому на свете,
Поздравляют внуки вас,
Правнуки и дети!
Вы, родные, молодцы,
Ваша жизнь — примерна,
Ведь жалели вы друг друга
И любили верно!
Мы желаем счастья вам
И здоровья тоже.
Дорогие, вы для нас
Всех людей дороже!
65 лет вместе,
Рука об руку, плечо к плечу!

*От семей Кондиранда, Миронюк и Былинских*


**Ване Радионику**
*14 октября исполняется 3 года*

**Дорогой крестник**
**Вадим Валерьевич НОРКИН!**
**От всей души поздравляем с прошедшим юбилеем!**



Когда мужчине столько лет
И он уже однажды дед,
Нам остается пожелать
На свадьбе внуков погулять!
А если в жизни повезет —
И правнукам открыть свой счет!

*Крестная и ее семья*


**Софье Малашевич**
*12 октября исполняется 5 лет*

КУЛЬТУРА

# «Рок-восень» прайшла ў Слоніме

**Суботнім вечарам 7 кастрычніка ў Слонім прыйшла «Рок-восень». Імпрэза адбылася ў дыска-бары «Майстар» («101 паверх»).**

На вечарыне выступілі два слонімскія кавэр-бэнды і два гурты з Менска.

Першым зайграў слонімскі кавэр-бэнд «Райцэнтр» са сваёй праграмай дваровых песень. Сярод кавэраў, папросту выкананых слонімцамі, былі культавыя песні гуртоў NRM і Nirvana «Тры чарапахі» і «Rape Me».

Наступным выступіў менскі поп-рок-гурт «Манекены». У хуткім часе размову з басістам гурту Аляксандрам Давідоўскім можна будзе пачытаць на gs.by.

Далей заспяваў беларускамоўны панк-гурт з Менска-Астраўца пад назвай «Амплітуда Смеласці». Сваёй незвычайнай падачай і гітарнымі рыфамі яны разбавілі даволі лёгкую поп-рокавую атмасферу вечара.

Завяршыў вечар яшчэ адзін слонімскі кавэр-бэнд «Insomnia», рэпертуар якога быў скіраваны больш у бок фолку і меладычнага металу.

Наступная рок-імпрэза арыенціровачна запланавана ў Слоніме на пачатак лістапада. У ёй плануецца ўдзел беларускіх рок-зорак з брэсцкага гурту «Дай Дарогу».

Мікіта ПАСТУХОЎ
N.PASTYHOW@GMAI.COM

НА ЖЫЦЦЁВЫХ СКРЫЖАВАННЯХ

# Старое ружжо


МАЛЮНАК ЯЎГЕНА ІВАНОВА

Ніхто ў Вялікіх Асколках і падумаць не мог, што Арцём Каспяровіч так апусціцца. Доўгі час ён быў у мясцовым калгасе галоўным інжынерам. І не абы-якім. Меў людскую пашану, добры заробак, з жонкай Кацярынай выгадавалі сына, далі яму вышэйшую эканамічную адукацыю. Словам, усё было як след, пакуль Арцём не пайшоў на пенсію. Не адразу, як споўнілася шэсцьдзясят гадоў, а пазней, бо яго не хацелі адпускаць. Але ўсё калі-небудзь канчаецца: прыехаў малады спецыяліст, і трэба было ўступаць месца. Хоць Каспяровіч нібыта і быў гатовы да гэтага, але зыход стаў для яго сапраўдным шокам. Проста не ведаў, куды сябе падзець, чым заняцца. На першым часе прыводзіў у парадак сваё падвор`е, шмат што зрабіў па гаспадарцы, да чаго раней рукі не даходзілі з-за бясконцай калгаснай працы. А калі ўсё было зроблена, апанаваў такі адчай, што хоць ваўком вый. На рабоце яго, так бы мовіць, проста рвалі на часткі то старшыня, то механізатары ды вадзіцелі: і тое трэба, і другое, а цяпер сядзеў, не раўнуючы нібы ў якім бункеры — нікому не патрэбны, нікому не цікавы. А тут яшчэ жонка, якая працавала паштальёнкай, падлівала масла ў агонь:

— Ну і чаго ты сядзіш як сава на суку, вечна хмурны і незадаволены? Падумаеш, на пенсію яго адправілі! Узяўся б вунь з Віцькам Жукоўскім хлеў рабіць Міхасю Акуновічу. І рубель нейкі зарабіў, і час будзе ісці цікавей.

— Які хлеў, які хлеў, што ты разумееш, баба?! Віцька, лічы, усё жыццё сякеры з рук не выпускае, будаўнік класны, а я хто? Акрамя як свінням загарадку, зрабіць нічога не ўмею.

— Ну то і сядзі! — злосна мовіла жонка і, бразнуўшы дзвярамі, пайшла на сваю пошту.

— Сядзіць як прышыты і глядзіць у адну кропку, — расказвала яна каляжанкам. — Проста ўжо сілы няма!

— А што ты хочаш, такі стрэс чалавек атрымаў, — сказала Ліда Макавеец. — Не дакучай яму, можа, усё неяк пераменіцца.

Аднойчы Кацярына прыйшла з работы і яшчэ з надворку пачула ў хаце мужчынскія галасы. За сталом на кухні сядзеў муж і два мясцовыя апойкі — Кузьма Крыцкі і Васіль Дзямко. Аднаго прaперлі з падвозчыкаў, а другога з трактарыстаў.

— Во сяброў знайшоў! — пераступіўшы парог, залямантавала кабета. — Правільна, хлопцы, прымайце яго ў сваю кампанію, разам будзеце горлы заліваць. Некалі як працаваў, то асуджаў такіх, як вы, а цяпер, бачыце, зраўняліся, сябрамі сталі!

П`яны Арцём, хістаючыся, устаў з-за стала і, сціснуўшы кулакі, памкнуўся да жонкі:

— Замаўчы, баба! Ты мной не будзеш камандаваць! Што захачу, тое і буду рабіць!

— Правільна, Сымонавіч! — падтрымаў Васіль. — Каб баба ды камандавала мужыком!

— Вон з хаты, апойкі! — Кацярына ўзяла ў качаргешніку венік і замахнулася на няпрошаных гасцей, але атрымала такую аплявуху, што адляцела да дзвярэй, упала на падлогу. І заплакала. Не так ад болю, як ад абразы і нечаканасці, бо муж ніколі не падымаў на яе руку.

Кабета была ў адчаі і не ведала, што рабіць. Кузьма і Васіль сталі пастаяннымі гасцямі ў іхнім доме. Грошай сваіх яны, канешне, не мелі, бо яшчэ былі не на пенсіі, ды і заробку ніякага. Зразумела, што пілі за Арцёмавы, бо ён Кацярыне з пенсіі не аддаваў ні рубля. Яна прыносіла грошы, ён распісваўся ў ведамасці і забіраў сабе.

«А я не аддам! — падумала аднойчы. — На чорта яны яму? Накормлены, абшыты-абмыты, а грошы толькі з апойкамі прапіваць. На маёй шыі сядзіць!»

Арцём адразу не змікіціў, што ўжо павінна быць пенсія, але назаўтра напомнілі сабутэльнікі:

— Сымонавіч, а ўчора ж у цябе пенсія была, — сказаў Васіль, калі не хапіла на бутэльку гарэлкі.

— Няма... — ажно разгубіўся Арцём. — Можа, на пошце затрымалі?

— Не затрымалі! Маёй жа бабе твая прынесла, а вы атрымліваеце ў адно чысло.

Замест гарэлкі яны купілі віна, выпілі і разышліся. Арцём сядзеў за сталом і чакаў жонку, каб высветліць, дзе дзела яго грошы, а тая, як на зло, доўга не ішла. Ён не ведаў, што Кацярына дапамагае суседцы капаць бульбу. І толькі калі ўжо добра сцямнела, на падворку пачуліся крокі.

— Дзе мая пенсія?! — ледзь толькі пераступіла парог, Арцём накінуўся на яе з кулакамі. — У міліцыю заяўлю, што грошы мае прысвоіла, а гэта падсудная справа!

— Навошта табе грошы, апоек? Есці хочаш, апранацца, у цяпле сядзець? А гэта ўсё, галубок, не задарма.

— Аддасі па-добраму ці не?! — крычаў Арцём.

— А і не аддам! Што ты мне зробіш?

— Заб`ю!

Ён кінуўся ў камору, дзе на цвіку вісела старое паляўнічае ружжо, бо некалі быў заядлым паляўнічым. Вярнуўся ў хату і наставіў дула на жонку. Яна спалатнела. Што ёсць сілы адпіхнула ад сябе ружжо, і ў гэты час грымнуў стрэл. Ад трыляжа, што стаяў у прыхожай, ва ўсе бакі паляцелі асколкі. Адзін, ці не самы вялікі, упіўся ў скронь Арцёма, і мужчына замертва абсунуўся на падлогу...

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**



Паважаны наш падпісчык
**Андрэй Дзмітрыевіч КІРЫЧКА!**

Шчыра віншуем Вас з днём нараджэння!
Жадаем здароўя, да шчасця імкнення.
Хай будзе жыццё Ваша доўгім, цікавым,
А Вы чытачом нашым шчырым, адданым.

***Рэдакцыя "Газеты Слонімскай"***

## афиша

**ЦЕНТР КУЛЬТУРЫ И ОТДЫХА**

**КИНОЗАЛ**

**Среда, 11 октября**

«Ёжик Бобби: Колючие приключения» 3D , начало в 12.00, 14.00
«Любовь в городе ангелов» 2D, начало в 16.00
«Жизнь впереди» 2D, начало в 18.30, 21.00

**Четверг, 12 октября**

«Мой маленький пони» 2D, начало в 12.00
«Салют 7» 3D (Россия, 2017, 12+, триллер, 1 ч 55 мин), начало в 21.00

**Пятница, 13 октября**

«Мой маленький пони» 2D, начало в 12.00
«Безбашенные» 2D, начало в 16.00, 21.00
«Салют 7» 3D, начало в 14.00, 18.30

**Суббота, 14 октября**

«Безбашенные» 2D, начало в 18.30
«Салют 7» 3D, начало в 21.00

**Воскресенье, 15 октября**

«Мой маленький пони» 2D, начало в 12.00, 14.00
«Салют-7» 3D, начало в 16.00, 21.00
«Безбашенные» 2D, начало в 18.30

**ТЕАТР**

**Воскресенье, 15 октября**

Для детей: "Мяфа", начало в 12.00

*Подписываемся под каждым словом. Подпишитесь и Вы!*

Главный редактор Виктор Владимирович Володащук

Учредитель
**Виктор Владимирович ВОЛОДАЩУК**

ГАЗЕТА ВЫХОДИТ
НА РУССКОМ И БЕЛОРУССКОМ ЯЗЫКАХ

**Телефоны редакции:**
МТС: 8-029-584-87-32
Velcom: 8-029-133-04-21
**факс:** 8 (01562) 2-90-00
звонить с 9.00 до **18.00**
**Skype — gazslon**

Для корреспонденции:
231799, г. Слоним,
ул. Красноармейская, д.41
Юридический адрес:
г. Слоним, ул. Красноармейская, 41

Регистрационное удостоверение №65 от 05.03.2009 года выдано Министерством информации Республики Беларусь. Свидетельство о госрегистрации УП "Газета Слонимская" ЮКЛ № 001845, выданное Гродненским областным исполнительным комитетом от 03.04.2003 г.

Авторы опубликованных материалов отвечают лично за подбор и достоверность фактов, их точка зрения может не совпадать с мнением редакции. Редакция не ведет переписки с читателями и оставляет за собой право не рецензировать и не возвращать рукописи. Редакция не несёт ответственности за содержание рекламы.

**Свободная цена**

Тираж номера 3010 экз.

Время подписания
к печати по графику
10 октября 2017 года 15:00

РЕКЛАМНАЯ СЛУЖБА
8-(044) 715-90-03
8-(044) 762-48-39
ул. Красноармейская, 73Б (здание АРЗ)
**e-mail:** gs@gs.by, gazslon@gmail.com

Объем – два условных печатных листа.
Газета отпечатана в ГОУПП "Гродненская типография", Гродно,
ул. Полиграфистов, 4.
индекс 230025
Заказ № 4978

Распространяется с газетой "Газета Слонимская" по подписке и в розницу по Республике Беларусь

ISSN 1991-3362



